Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 3000 м. п.

# ВОЛЬНЫ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 36.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Напрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 7000 мк., сярод тэксту 6000 м. і на 4 стр. 5000 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 5. Вільня, Серада, 5-га верасьня 1923 г. Год I.

## Цераз край!

Нядаўна міністар асьветы, пан Глонбіньскі, прамаўляючы ў сойме аб школьных справах, сказаў, быццам, на блізу паўтраця мільёна беларусаў, што жывуць пад уладай Польшчы, істнуюць ажно... 44 беларускія народныя школы.

Скуль пан міністар узяў гэтую цыфру, — гэтага, бадай, і сам ён ня мог-бы растлумачыць. Мо' ў міністэрскай галаве недзе несьвядома мільгнула сымвалічная, нікім дагэтуль не разгаданая, міцкевічаўская цыфра „czterdzieście i cztery"?.. Ня ведаем.

Ведаем толькі, што пан міністар зусім офіцыяльна і публічна *сказаў няпраўду*: нават 44 беларускіх школаў у межах Польскага гаспадарства няма. Няма, бо ўлада, ламаючы ўсе канстытуцыйныя правы нашага народу, *не допускае да адкрыцьця беларускіх школаў*, ня гледзячы на масавыя дамаганьні насяленьня, а істнаваўшыя ў часе „Сярэдняе Літвы" каля 200 беларускіх народных школаў тая-ж улада вельмі хутка „зьлiквідавала", давёўшы іх лічбу да *пару дзесяткаў*.

Гэтымі днямі той-жа пан Глонбіньскі ізноў прамовіў аб школах — з страніцаў эндэцкае часопісі „Gazeta Warszawska". І, відаць, выступленьне пана міністра мела на мэце паінфармаваць аб палажэньні школаў „нацыянальных меншасьцяў" *заграніцу*: запраўды, чытаючы ягоныя заявы, зусім *нельга пазнаць Польшчы*!

Паслухайце толькі:

Міністэрства асьветы стаўляе будаваньне народнае школы на таких асновах, каб яна, „узгадоўваючы моладзь у духу нацыянальным і этычным, *шанавала пры гэтым розьніцы языка і рэлігіі*".

Так кажа пан міністар.

А на дзеле — „нацыянальны" дух аказываецца самым няпрыстойным нацыянальным шовінізмам, „этыка" — сярэднявечным клерыкалізмам, а „шанаваньне розьніц языка і рэлігіі" — дзікім аплёвываньнем усяго таго, што дорага кожнаму сьвядомаму беларусу...

Але паслухаем далей.

„Паводле канстытуцыі істнуе абавязак навучаньня ў межах народнае („powszechnej") школы, і ўсе грамадзяне маюць права на народную школу, якая заводзіцца ўсюды ў меру фінансавых магчымасьцяў на агульных, установленых „уставай" варунках. *На жаданьне няпольскага насяленьня, у народную школу уводзіцца, як выкладовая, няпольская мова*".

„Уводзіцца няпольская мова" — дзе і калі?

Мы аб такіх фактах не ведаем. Мы ведаем, наадварот, што *беларуская мова выводзіцца уладай з тых беларускіх школаў, дзе яна ужывалася перад* „wcieleniem" *усяе Заходняе Беларусі да Польшчы*. Факты гэтыя вядомы і з газэтных карэспандэнцыяў, і з мэмарыялаў, падаваных уладзе, і з соймавых прамоў беларускіх паслоў...

Паслухаем яшчэ „хвалебны гымн" польскай „толеранцыі" адносна да „меншасьцяў", што пяе пан Глонбіньскі. Вось што ён гаворыць аб сярэдніх школах:

„Апрача народных школаў дзяржава не абязана адкрываць і ўтрымліваць іншыя школы з няпольскай мовай... Аднак, трэба памятаць, што „нацыянальныя меншасьці" маюць права адкрываць прыватныя школы сярэднія, профэсыянальныя і вышэйшыя, якія *таксама дастануць дапамогу з дзяржаўнае касы*,— ведама, паскольку адтрымаюць ад дзяржавы концэсіі і не выклікаюць сумляваньняў адносна да дзяржаўнае лёяльнасьці".

На жаль, *беларускія гімназіі*, „концэсіяваныя дзяржавай" і, значыцца, „не выклікаючыя сумляваньняў з боку лёяльнасьці", *ніякае дапамогі ад дзяржавы не адтрымліваюць*. Адна Віленская гімназія *даставала* невялікую дапамогу, але якраз з пачаткам бягучага школьнага году, значыць, у тыя часы, як пан міністар рабіў сваю заяву для заграніцы, і яна *аказалася гэтае дапамогі пазбаўленай!*

А пан, пане Глонбінскі, кажаш:... „дастануць..."

Так, дастаюць ужо, але толькі... новыя скарпіоны: ужо, як мы дачуліся, пачалося разганяньне вучыцялёў-беларусаў, якія *не пасьпелі* да пачатку заняткаў адтрымаць пасьведчаньне аб „obywatelstwie"... Не пасьпелі, бо староствы зацягіваюць выдачу пасьведчаньняў на цэлыя месяцы!

У той мамэнт, калі Ліга Нацыяў пачала зварачаць больш увагі на палажэньне „нацыянальных меншасьцяў" наагул, калі і перад Польшай стаіць пагроза прызваньня яе Лігай да спаўненьня падпісаных польскім урадам забавязаньняў, пан міністар асьветы друкуе гэткія, далікатна кажучы, *баламутныя* заявы, рэзка супярэчныя з фактычным палажэньнем беларускіх школаў. Заявы гэныя, вядома, зара падхопіць і разьнясе па сьвеце „дастойная" француская прэса з „Journal de Pologne" на чале, — і можа стацца, што заграніцай паверацъ у „рай для меншасьцяў" у Польшчы...

Як-жа тады будзе ў душы сьмяяцца п. Глонбіньскі з наіўнасьці вялікіх дзяржаваў, якіх не навучыў нічога нават... „праўдамоўны" пан Пілсудскі!

Толькі-ж ці паверацъ? Ці не акажацца гэтая заява пана міністра апошняй кропляй, ад якое пераліецца перапоўненая ўжо падобнымі „праўдамі аб меншасьцях" чара цярплівасьці сябраў Лігі Нацыяў?!..

**Ст. Мірскі.**

## Пілсудскі аб „бунце" ген. Жэлігоўскага.

Калі войскі ген. Жэлігоўскага займалі Вільню, для нас, віленцаў, зусім ня было сакрэтам, што такзваны „бунт" гэных войск быў зроблены па загаду з Бэльвэдэру. Прысутнасьць пана Прыстора, „вока і вуха" начальніка Польскае Рэспублікі, была лішнім доказам учасьця ў імправізаваным „бунцэ" галавы гаспадарства.

Ведалі гэта і заграніцай. Але як сам пан Язэп Пілсудскі, так і ўвесь польскі ўрад усім-чым кляліся, што яны ня маюць з афэрай ген. Жэлігоўскага нічога супольнага.

У часе істнаваньня „Сярэдняе Літвы" істнавала ў Вільні заправды „драконская" цэнзура, якая не пазваляла тутэйшым газэтам надрукаваць нават найменшага намёку на праўду аб „бунце". Выходзіўшая тады „Наша Ніва", адноўленая пасьля пяцілетняга перарыву, якой цэнзура выкідала палавіну зьмешчанага матэрыялу з кожнага нумару, забараняючы адначасна пакідаць пустыя месцы, пасьля 2-3 месяцаў бязплоднае барацьбы з цэнзарскім алавіком, была прымушана закрыцца.

І толькі цяпер праўда аб „бунце" раскрылася, можна сказаць, зусім офіцыяльна: яе раскрыў сам першы маршалак Польшчы, п. Язэп Пілсудскі. Чалавек, які перад усей Эўропай, быццам Пілат, умываў рукі і выракаўся свайго найбольш паслухмянага слугі ген. Жэлігоўскага, цяпер публічна — перад тысячнай грамадай народу, сабранай на ягоным рэфэраце ў Вільні ў салі тэатру на Пагулянцы, прызнаўся, што ўвесь той „бунт" зроблены быў па загаду, бо яму самаму не выпадала ламаць сваё слова, дадзенае вялікім дзяржавам, і, супроць умовы ў Спа, захопліваць Вільню аружнай сілай.

— „Я сам", — сказаў п. Пілсудскі, — „як начальнік гаспадарства, ня мог нарушыць свайго слова дык і даручыў ваенную акцыю генаралу Жэлігоўскаму".

Так, згодна з справаздачай „Dzien. Wil.", заявіў першы маршалак Польшчы, прызнаўшыся перад усім сьветам да сьвядомага ашуківаньня ня толькі ворагаў Польшчы, але і яе саюзьнікаў і прыяцеляў...

Як пасьля гэтага прызнаньня сусьветная дыпляматыя будзе аднасіцца да польскіх офіцыяльных заяваў наагул, — ня наша гэта справа. Але, пры нагодзе, цікава прывясьці жменю фактаў, зьвязаных з „бунтам" і маючых значэньне спэцыяльна для беларусаў.

Справа паходу на Вільню была пастаноўлена ў Бэльвэдэры беспаваротна, толькі пан Пілсудскі доўга разважаў пытаньне аб тым, у якой форме гэта зрабіць. Істнаваньне так-званае „Беларуска-Літоўскае" дывізіі давала магчымасьць выбару: зрабіць выступленьне пад „беларускай" фірмай, ці пад „літоўскай". Спачатку думалі выбраць першую. Зьвярнуліся да некаторых беларускіх дзеячоў і запрапанавалі ім пару міністэрскіх портфэляў у праектаваным „рэвалюцыйным" урадзе ў Вільні. Віленшчына павінна была атрымаць назоў „Заходняе Беларусі" і стаіца тым Піэмонтам, да каторага цягнулася-бы і Усходняя Беларусь, пад той час (1920 год.) вельмі цярпеўшая ад маскоўскага цэнтралізму і нацыяналізму радавае ўлады.—Беларускія дзеячы, бышыя тады ў Варшаве і ня меўшыя магчымасьці паразумецца з беларускімі арганізацыямі на мясцох, згодзіліся на прапазыцыю Бэльвэдэру, аднак, з той агаворкой, што ў склад „Заходняе Беларусі", якая павінна была пазьней сфэдэравацца з Польшчай, увойдуць усе Беларускія землі, занятыя, палякамі, (што на ўсход ад лініі Кэрзона). З тым і выехалі ў Вільню проф. Вацлаў Іваноўскі і другія, меўшыя ўвайсьці ў склад ураду „Заходняе Беларусі".

Аднак, прыехаўшы ў Горадню, яны даведаліся, што ўвесь плян пан Пілсудскі зьмяніў. Замест „Заходняе Беларусі", што адпавядала істоце справы, была выдумана „Сярэдняя Літва", абмяжованая зусім малым кускам тэрыторыі, выразаным так, каб голас віленскіх палякоў мог пераважаць. Пан Пілсудскі ў апошні мамэнт убаяўся, што ў „Заходняй Беларусі",—гдзе ўся маса насяленьня— беларуская (гэта-ж паказалі апошнія выбары ў варшаўскі Сойм!), беларусам, як заправўдным гаспадаром гэтае краіны, прыдзецца даць усе належныя ім правы. Вось, і быў прыняты другі выхад — стварэньне „Сярэдняе Літвы" бадай зусім бяз літвіноў, рахуючы на тое, што пры адсутнасьці блізу ўсяе віленскае літоўскае інтэлігенцыі, якая зьвязалася з літоўскай дзяржаўнай работай і перад прыходам войска ген. Жэлігоўскага была прымушана пакінуць Вільню, астаўшаеся ў межах „Жэлігоўіі" літоўскае сялянства ня будзе лішне трывожыць польскую ўладу...

**Лаўрыновіч.**

# З прычыны апошняе „аблавы“.

Яшчэ адзін—асабліва яркі прыклад таго, як польская адміністрацыя „шануе“ польскія законы.

У нас ужо была зьмешчана вестка аб „аблаве“ на беларусаў і беларускія грамадзкія установы, якая адбылася ў Вільні ў начы з 24 на 25 жніўня.

„Аблава“ гэта прадстаўляе наагул нешта нязвычайна гумарыстычнае. Бадай на тыдзень перад ёй з „ахраньніцкіх“ сфэраў была пушчана чутка, быццам ў Вільні мае адбыцца тайны „эсэраўскі зьезд“. Хаця ўсім вядома (а „ахранцы“ перад усім), што бадай усе выдатнейшыя эсэраўскія дзеячы даўно ўжо былі *прымушаны* пакінуць межы Польскага гаспадарства, якое гасьцінна гатова было даць ім бясплатныя кватэры ў Лукіскім вастрозе, хаця апошняя з прадстаўніц гэтае прасьледаванае ў Польшчы беларускае партыі, грам. Бадунова, так сама за тыдзень да „аблавы“ з польскім пашпартам выехала заграніцу, аднак віленская адміністрацыя рабіла від, быццам верыць ў гэны міфічны зьезд. Мала таго: як відаць з пытаньняў паліцыі ў часе „аблавы“, шукалі вядомага беларускага камуністычнага дзеяча, Чарвякова, які займае ня менш і ня больш, як становішча старшыні Рады Народных Камісараў Радавае Беларусі, а з эсэрамі мае гэтулькі-ж супольнага, сколькі—ну, хаця-бы Тарашкевіч з Пілсудскім!

Усё гэта, трэба думаць, было „спрэпаравана“ з тэй мэтай, каб неяк скампраматаваць беларускіх культурных дзеячоў і культурныя установы ў вачах польскага грамадзянства і нават заграніцы. Бо як-жа: сам факт шуканьня камуністы Чарвякова ў кнігарнях, школах і т. п. у несьвядомага чалавека можа выклікаць наіўную думку, быццам „ахранка“ мела *наважныя матывы* дзеля „аблавы“. А йшчэ больш сэнсацыі набірае ўся справа, калі зьвернем увагу на факт грубага патаптаньня законаў Польшчы аб недатыкальнасьці асобы і кватэры соймавых паслоў: *паліцыя ў часе аблавы ўрывалася ў кватэры паслоў*—Тарашкевіча і Рака-Міхайлоўскага. І ізноў дзеля наіўных людзей паўстае пытаньне: няўжо-ж адміністрацыя наважылася на гэткае беззаконьне, ня маючы пэўнасьці, што ў беларускіх паслоў яна запраўды можа знайсьці ўкрытага галаву беларускага радавага ўраду?!...

Бязумоўна, ані такое пэўнасьці, ані нават такога дапушчэньня „ахранка“ не магла мець, і ўся гісторыя з „аблавай“ і нарушэньнем пасольскае недатыкальнасьці прадстаўляецца нам яшчэ аднэй праявай правакацыйнага зьдзеку адміністрацыі над беларускім грамадзянствам. Гэта—новая спроба стэрарызаваць, запужаць беларускіх культурных працаўнікоў і беларускае сялянства, спроба абнізіць ў вачах апошняга павагу нашых паслоў, якіх паліцыя трактуе нароўні з усімі бяспраўнымі беларусамі....

У сувязі з „аблавай“ цікава адзначыць, што польскае грамадзянства, польская прэса зусім не адгукнулася на факт грубага нарушэньня правоў беларускіх паслоў. Няхай-бы хто паважыўся зрабіць вобыск ў кватэры паслоў-палякоў—ну, хаця бы кс. Мацеевіча або кс. Альшанскага, дык напэўна ў тры дні „ачысьцілі-бы“ адміністрацыю ад правініўшыхся, і Іоганн Обст першы выліваў-бы ушаты памыяў на галовы цераз меру руплівых і самавольных „kresowych kacyków“. Але тут нарушаны правы беларусаў,—ну, і добра: для іх закон ня пісаны, хоць гэта і паслы....

Адміністрацыя пасьля „аблавы“ пачувае сябе зусім добра: яна ведае, што можа спадзявацца ня кары, а падзякі за сваю „энэргічную дзейнасьць“, за „самаахвярнасьць“, якая выявілася ў тым, што паны адміністратары „дзеля айчызны“ зарызыкавалі нарушыць законы гэтае „айчызны“.

Што на ўсё гэта скажа Сойм і таварышы нашых пакрыўджаных паслоў — польскія „сувэрэны“?

**К. Ф.**



# Палітычныя падзеі.

## Новы пажар.

На Балканах зноў гатоў разгарэцца новы пажар вайны і яшчэ ня ведама, ці ён абмяжуецца толькі Балканамі і ці не перакінецца і на другія суседнія краі.

Як і заўсёды повадам да вайны зьявіўся сам па сабе мала важны у сэнсе міжнароднага значэньня факт забойства невядомымі асобамі італьянскай ваеннай місіі, якая мела заданьнем устанавіць граніцу паміж Грэцыяй і Албаніяй. Лічучы, што за гэтае забойства павінен быць адказным народ і ўрад Грэцыі, хоць на гэтае няма ніякіх праўных надставаў, фашыстоўскі ўрад Мусаліні, падобна аўстрыйскаму ўраду пасьля Сараеўскага забойства перад сусьветнай вайной, прад'явіў ураду Грэцыі ультыматум, стаўляючы дамаганьні, якія зусім паніжаюць Грэцыю, як суверэнную дзяржаву.

Пасьля разгрому грэцкай арміі туркамі ў Малай Азіі і пасьледаваўшага за тым перавароту, калі кароль Канстанты, прымушаны быў адрачыся ад трону і ўлада апынулася ў руках ваеннае партыі, Грэцыя перажывае вечную пагрозу новага п:раваротy справа ці зьлева. Змаганьне паміж рознымі варожымі партыямі дужа моцнае, і з гэтай прычыны сучасны ўрад Грэцыі гатоў бы йсьці на ўсялякія ўступкі, каб толькі унікнуць вайны. Згодзіўшыся на выпаўненьне 4-х пунктаў італьянскага ультыматуму, ўрад Грэцыі запрапанаваў перадаць іншыя тры пункты на разглад Лігі Нацыяў, але фашыстоўскаму ўраду Мусаліні патрэбны першы лепшы повад да вайны і ня гледзячы на міралюбівы тон грэцкага адказу, італьянскі ўрад, каб забясьпечыць „гонар“ дзяржавы, прыказаў свайму флёту заняць востраў Корфу. Пасьля кароткай бомбардыроўкі, вынікам якой было некулькі забітых і раненых, італьянскія войскі занялі Корфу, як „заставу“, што грэкі выпаўняць італьянскія дамаганьні.

Так распачаўся аружны конфлікт паміж Італіяй і Грэцыяй. Але запраўдных прычын. новай вайны трэба шукаць глыбей, і забойства **невядомымі** людзьмі італьянскай місыі гэта толькі пажаданы для Італіі повад зьдзейсьніць даўнейшыя свае замеры. Як вядома італьянскі імпэрыялізм ужо даўно імкнецца да ўмацаваньня на другім беразе Адрыятыцкага мора. За ўплывы ў Албаніі Італія раней змагалася з Аўстрыяй, гэта заставіла Італію прыняць учасьце ў сусьветнай вайне, але жаданьні Італіі не споўніліся ў поўнай меры. У выкраенай новай „дзяржаве“ Албаніі сталі моцна пашырацца ў паўночнай частцы ўплывы Югаславіі, а ў паўднёвай — Грэцыі. Насяленьне паўднёвай Албаніі, якое нацыянальна і рэлігійна блізка да Грэцыі, нават было распачало паўстаньне, утварыўшы самадзейную дзяржаву Паўночны Эпір, маючы замер з часам аб'ядынацца з Грэцыяй. Англія і Францыя далі сваю згоду на гэтае злучэньне Эпіра з Грэцыяй, але Італія запротэставала, бо мела замер сама ўмацавацца ў Албаніі. Уся італьянская палітыка палягала на выкліканьні забурэньняў у Албаніі паміж магамэтанскай і хрысьціянскай часткай насяленьня. Грэцыя, знаходзячыся ў цяжкім становішчы, будучы ўцягнута Англіяй у вайну з Турцыяй, прымушана была згадзіцца на далучэньне Эпіра да Албаніі. Насяленьне Эпіра моцна абурана італьянскай палітыкай і зусім магчыма, што забойства італьянскай місіі і зьяўляецца чынам помсты з боку гэтага насяленьня.

Вось тыя прычыны, якія могуць выклікаць новую вайну. Герой усіх шовіністаў, не выключаючы і поль-

**Марка Луцкевіч.**

# Польская „адбудова“ украінскіх і беларускіх земляў.

У Бэльгіі і ў Францыі зьнішчаныя сусьветнай вайной тэрыторыі—ўжо даўно адбудаваны. Толькі на паказ будучаму пакаленьню французы старанна захоўваюць жудасныя сьляды вайны на невялічкіх абшарах.

Як бачыце ў Заходняй Эўропе ёсьць *музэі сьмерці і жахлівых руін*, якія зьявіліся ў 1914—18 г. г.

Падобны музэй—з тэй толькі розьніцай што знаходзіцца дзе гурхаталі гарматы—маюць беларусы і украінцы на сваіх землях, тут пад Польшчай.

У апошнім пераконваюць нас урадовае справаздаваньне за 1922 год „Гэнэральнай Дырэкцыі Адбудовы“ пры польскім міністэрстве „Robót Publicznych“.

Перад намі неўялікая кніжачка. У ёй гібель цыфравога матэр'ялу. Ёсьць і ілюстрацыі „адбудаваных“ ці лепш нават пабудаваных... osad żołnierskich (жаўнерскіх сядзіб).

У гэтым урадовым справаздаваньні можна вычытаць вось што:

На 1-га студня 1923 г. астаецца яшчэ да адбудовы:

| | |
|---|---|
| Жылых дамоў — — — — — — — | 227.038 |
| Дзяржаўных будынкаў — — — — — | 558.333 |
| Школаў — — — — — — — — — | 2.575 |
| Касьцёлаў — — — — — — — — | 1.043 |
| Грамадзянскіх будынкаў — — — | 919 |
| Разам | 789.908 |

Па паветах зьнішчаньня выглядаюць так:

Броды, Беражаны, Рогатын, Тарнопаль, Станіславаў, Дубно, Ковель, Крэменец, Грубешоў, Влодава, і шмат іншых у сучасную пору маюць яшчэ зьнішчаных будынкаў больш як 10.000 кожны. Перамышль, Залішчыкі, Каламыя, Радэхаў, Богародчыны, Камінка-Струмілава, Холм, Тамашоў, Уладзімір-Валынскі, Луцк, Гарохаў—ад 5.000 да 10.000 зьнішчаных будынкаў на павет. Сокал, Гусяцін, Львоў, Дрогобуч, Яраслаў, Рава-Руская, Доліна, Городенка, Соколе. Перэмышляны, Тэрэбовля, Золочоў, Роўна, Любомль ад 2.000 да 5.000.

Такія-ж паветы, як: Сарны, Стрый, Сьняцін, Гарадок Ягайлонскі, Косій, Жыдачыў, Чарткоў, Скалат, Збараж, Гарліца, Самбор, Печеніжын, Ліско, Турка, Калуш, Лунінец, Езісна маюць ад 2000 да 5000 зьнішчаных будункаў (прывадзім тут украінскія і беларускія найбольш зьнішчаныя вайной землі).

Тут ёсьць характэрным, што наш павет Гарліца і беларускі Лунінец маюць аднаковыя цыфры зьнішчэньня як Чэнстохова, Варшава, Кельцы і інш. Павет-жа Луцк на Валыні дзе быў фронт па р.р. Стаходзе і Стыру (тут ці ня найбольш зьнішчэньня!) або-ж страшэнна зруйнаваны Перамышль—зраўніваюцца з паветам Остраленка пад Варшавай!

Каб мець паўнату прадстаўленьня як выглядаюць зьнішчэньня на беларускіх і ўкраінскіх землях (у асьвятленьні польскага ўраду) кідаюць сьвятло і ведамасьці ўжо дакананай адбудовы па ваеводзтвах.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Лодзь | — 91,3 | проц. | Станіславаў | 50,6 | проц. |
| Кракаў | — 90,2 | „ | Тарнополь | 49,5 | „ |
| Кельцы | — 73,6 | „ | Беласток | — 48,3 | „ |
| Львоў | — 72 | „ | Навагрудак | 47 | „ |
| Варшава | 68 | „ | Вільня | — 44 | „ |
| Люблін | — 55 | „ | Палесься | — 22,3 | „ |
| Валынь | — 55 | „ | | | |

З вышэй прыведзенай таблічкі, можна зрабіць такі вывад, што Конгрэсоўка—асабліва ў заходняй часьціне—больш зруйнавана чым Усх. Галічына, Валынь з Холмшчыной, Палесьсе і Беларусь. Два павета: Кельцы до 73,6 проц. ужо адбудавана і Лунінец, дзе азбудавана толькі 22,3 проц., хоць яны обадва аднакова зруйнаваны!

Вось што кажуць урадавая справаздачы. Мы мусім прыймаць на веру, бо паведамленьні ўраду—заўсёгды протэндуюць на „wiarogodność“.

Але перад намі далёка больш праўдзівая крыніца: З часопісі „Українське Життя“ №. 9/129 за 1 красавіка г. г.—даведываемся, што ў павеце Крэмянец яшчэ і да гэтуль ёсьць зьнішчаных будынкаў не 10000, як паказывае ўрадовая статыстыка, аж цэлых 20000.

Так цьвярдзіць інтэрпэляцыя ўкраінскіх паслоў у справах адбудовы. Думаем, што ведамасьці ўкраінскіх паслоў заслужываюць большай верагоднасьці, як цыфры ўраду.

Прывядзём яшчэ адну таблічку, а іменна выдаткі Генеральнай Дырэкцыі Адбудовы за 1922 год з падробнасьцяй аж да фэнігаў!...

| | |
|---|---|
| Выдаткі на адміністрацыю — — | 1.208.748.886.06 |
| Помач пацярпеўшым — — — | 6.442.400.000.00 |
| Адбудова школ — — — — — | 1.470.000.000.00 |
| Адбудова касьцёлаў — — — | 550.000.000.00 |
| Апрацовываньне ўзораў — — | 6.250.000.00 |
| Будова баракаў — — — — — | 1.025.000,000.00 |
| Інсталяцыя майстэрняў— — — | 80.000.000.00 |
| „ новых бюро Адбудовы | 2.000.000.00 |
| Будова дамоў для ўрадоўцаў — | 200.000.000.00 |
| „ жаўнерскіх сядзібаў — — | 1.000.000.000.00 |
| Помач асаднікам — — — — | 1.000.000.000.00 |
| Дотацыя „Банковай адбудовы“ | 3.550.000.000.00 |
| Пазычка для павета і гор. Дзялдова фонд ліквідацыйны быўш. VI сэкцыі Міністэрства „Robót Publicznych“— — — — — | 1.000.000.00 |
| Разам — — | 16.835.398.886.06 |

Зважаючы на гэта, што паказчык выдаткаў пад рубрыкай „помач пацярпеўшым“ ёсьць скрытая форма дапамаганьня розным урадоўцам, асаднікам, польскім колёністам (толькі-ж украінец і беларус з гэтых дапамогаў не карысталі!); што украінскія і беларускія школы наагул не падлягалі адбудове, а папрабуйце здабыцца на самае заснаваньне украінскай ці беларускай школы. Мы бачым, што ўсе гэтыя „адбудовы“ „інсталяцыі“, „дотацыі“ ды новыя „будовы“ на украінскіх і беларускіх землях ёсьць тамаваньне ўкраінскай і беларускай культуры. Народ ня толькі не бачыць дапамогі на адбудову зьнішчэньняў праз сусьветную вайну, але ў зьбіраньні з яго даніны-падаткаў адчувае польскі „стан посяданьня“.

(З украінскага, „Нова Культура“).

скіх Мусоліні пастараўся выкарыстаць момант, каб адарваць увагу італьянскага народу ад тых праяваў „фашыстоўскага раю“, якія ўсё больш даюць сябе адчуваць і зьвярнуць яе ў іншы бок, спадзяючыся славаю пераможца над слабаю Грэцыяй умацаваць свае палажэньне ў Італіі. Але перамога дужа проблематычная, бо, калі дойдзе да вайны паміж Грэцыяй і Італіяй, трэба спадзявацца, што Югаславія, якая мае шмат спорных справаў з Італіяй, не застанецца спакойна ў баку. Адначасна з італьянскім ультыматумам Грэцыі, прадстаўнік Югаславіі, пакінуў Рым, куды ён быў прыехаў для перагавораў у справе Фіумэ. (Вольны горад паміж Югаславіяй і Італія, штось-ці на манер Гданска), І ня толькі Югаславія можа ўмяшацца ў гэты конфлікт. Чэхія і Аўстрыя, якія зацікаўлены захаваньнем раўнавагі на Балканах таксама гатовы выступіць проціў Італіі.

А Ліга Нацыяў? А міжнародныя трыбуналы? А вялікія дзяржавы, якія заўсёды крычаць, што яны стаяць у абароне міру ў Эўропе? Выпадкі апошніх гадоў ясна паказалі, што ўсе гэтыя здавалася-б такія карысныя установы, у запраўднасьці ніколі ня могуць забясьпечыць запраўднага міру, яны толькі санкцыянуюць права сільнага і лічацца з дакананымі фактамі. Запраўдны мір у Эўропе наступіць толькі тады, калі ўва ўсіх дзяржавах Эўропы ўлада будзе знаходзіцца ў руках працоўных, і ўсе народы Эйропы будуць складаць адну фэдэрацыю, у якой будзе забясьпечана права свабоднага разьвіцьця кожнай нацыі.

**Язьвіч.**

## Грэка-Італьянскі конфлікт.

Лічучы адказ Грэцыі на італьянскі ультыматум незадавальняючым італьянскі ўрад даў загад свайму флёту распачаць блёкаду грэцкага пабярэжжа. Пасьля абстрэлу італьянскія войскі занялі востраў Корфу. Заняты таксама востраў Самос. Урад італьянскі абвесьціў мобілізацыю жаўнераў з двух гадаў. У Тарэнце адбываецца пасадка на караблі войскаў і артылерыі. Адпраўлена таксама флётылія аэропланаў. Італьянскае пасольства ў Афінах, паведамляючы грэцкі ўрад аб заняцьці Корфу, адначасна ўручыла новы ультыматум аб спаўненьні італьянскіх жаданьняў у працягу 5 гадзін.

Грэцыя зьвярнулася да Рады Лігі Нацыяў з просьбай аб інтэрвэнцыі, лічучы, што окупацыя Корфу і Самоса ёсьць акта варожы і павінен лічыцца за распачацьце вайны. Рада Лігі Нацыяў пастанавіла адлажыць на кароткі час разглад гэтай справы да адтрыманьня дакладнейшых інфармацыяў.

Ангельскі ўрад заняў няпрыхільнае становішча адносна Італіі, лічучы занятае Італіяй становішча пагрозай эўрапэйскаму міру. Некаторыя ангельскія газэты лічаць заняцьце Корфу новай Рурай на Міжземным моры. Француская прэса радзіць Мусоліні быць умяркаваным. Чэская прэса таксама радзіць Італіі добра падумаць перад распачацьцем так важных шагоў.

Але італьянскі ўрад ня лічыцца з гэтымі галасамі. Газэты паведамляюць аб пашырэньні окупацыі на шматновых вастравоў і на окупаваных абшарах распачаліся рэпрэсыі; арыштавана толькі на Корфу 80 асобаў.

### ПОЛЬШЧА.

Прэзыдэнт Рэспублікі падпісаў 1-га верасьня дэкрэт, якім звальняе п. п. Ліндэ ад абавязкаў міністра скарбу, інж. Кухарскага ад абавязкаў міністра прамысловасьці і гандлю і Дарэўскага ад кіраўніцтва міністэрствам працы і соцыяльнай апекі. Адначасна назначаны п. п. Кухарскі міністрам скарбу, інж. Шыдлоўскі міністрам прамысловасьці і гандлю і Смульскі міністрам працы і соцыяльнай апекі.

---

Прэзыдыум рады міністраў склікае конфэрэнцыю прадстаўнікоў прэсы. На конфэрэнцыю будуць запрошаны толькі прадстаўнікі падтрымліваючых урад часопісей.

---

У Сасноўцу арганізацыя P. P. S. зблёкавалася з камуністычнай арганізацыяй для выбару у касу хворых; выстаўляючы супольны сьпісак кандыдатаў, злучаныя арганізацыі выдалі супольную адозву.

### НЯМЕЧЧЫНА.

„Le Journal“ паведамляе, быццам ўрад Нямеччыны пастанавіў распачаць беспасрэдныя перагаворы з Францыяй.

---

У Кёнігсбергу распачалася забастоўка партовых работнікаў.

---

Нямецкія нацыяналісты нарыхтоўваюць контрэволюцыйную акцыю і адкрыта выступаюць за роспуск парлямэнту і ўвядзеньне дыктатуры „моцнай рукі“.

---

Сытуацыя ў окупаваных абшарах з кожным днём усё пагаршаецца. У раёне Эсэн большасьць шахтаў ня працуе. Конфлікт трывае шмат тыдняў, выклікаючы пастаянна дэманстрацыі з крывавымі вынікамі.

### С. С. Р. Р.

У Радавых Рэспубліках распачалася выбарная кампанія. „Праўда“ заяўляе, што „улада бяз прымусу пытаецца працоўных аб падцьвярджэньні даверыя для работніцка-сялянскага ўраду“.

### ЛІТВА.

На адчыненьні ковенскай сельска-гаспадарчай выстаўкі старшыня міністраў Гальванаўскас сказаў вялікую палітычную прамову, якая ў скарочаны РАТ-а выглядае вось-як:

Для ўмацаваньня незалежнасьці Літвы трэба мець адміністрацыйны апарат, узброеную армію і поўную палітычную гармонію. Нацыянальныя меншасьці ў Літве павінны адтрымаць права самаўраду. Абгаварываючы адчыненьне выстаўкі Гальванаўскас з жалем зазначыў, што на гэтай выстаўцы не прадстаўлены ўсе літоўскія землі, а іменна не хватае Віленшчыны. На выстаўцы ў прошлым годзе—кажа Гальванаўскас—я гаварыў аб патрэбнасьці ўласнага порту. У гэтым годзе справа стаіць шмат лепш. Літва мае ўласны порт, дзякуючы адпорнасьці тых, хто сам скінуў з сябе ярмо вякавое няволі. Справа Клайпэды на дзеле ўжо вырашана. Порт Клайпэдзкі знаходзіцца фактычна ў літоўскіх руках, але з некаторымі дзяржавамі Літва не дайшла да паразуменьня ў справе Клайпэды.

Дзеля гэтага Літва павінна бараніцца проціў проектаў, якія гэтыя дзяржавы прадстаўляюць. Літва робіць усё, каб абараніцца ад пагвалчаньня яе незалежнасьці. Урэшце Гальванаўскас зазначыў, што трэба памятаць аб тым, што сталіца Літвы—Вільня дагэтуль яшчэ ня вызвалена.

Літоўская прэса абгаварываючы гэтую прамову, кажа, што гэта фармальнае няпрыняцьце францускага проекту статуту Клайпэды. Міністар успомніў аб нацыянальных меншасьцях дзеля таго, што Ліга Нацыяў разглядае на цяперашняй сэсыі справу нацыянальных меншасьцяў.

### ІРЛЯНДЫЯ.

Вынікі выбараў у Ірляндыі дасюль прадстаўляюцца ў гэткім відзе: ўрадовая партыя—53 мандаты, рэспубліканцы—37, партыя працы—16, земляўласьнікі—12.

### ВЭНГРЫЯ.

У Буда-Пэшце выкрыта фашыстоўская арганізацыя пад назовай „Абуджаючаяся Вэнгрыя“, якая мела замер зваліць сучасны ўрад і адабраць ад Румыніі і Чэхіі землі, якія да вайны належалі Вэнгрыі. Загаворшчыкі мелі шмат аружжа. Арыштована шмат асобаў.

### Землетрасеньне ў Японіі.

У Японіі здарылася нябывала сільнае землетрасеньне, цэнтрам якога зьяўляецца вулкан Фуджу. Сталіца Японіі Токіо і найважнейшы порт Іокагама зруйнаваны. Шмат дробных гарадоў дашчэнту зьнішчаны. Адначасна з землетрасеньнем была страшная бура і навальніца. Мора заліло ўсё пабярэжжа, так што горад Іто зусім змыты хвалямі мора. Адначасна распачаўся пажар, што уцалела ад землетрасеньня—сталася ахвяраю агню. Зьнішчаны тэлеграфныя ліні і чугункі; шмат караблёў так-сама згінула. Ахвяры ў людзях страшэнныя. У адным Токіо загінула, каля 100.000 чалавек.

### Монзье аб сваей місіі.

Францускі сэнатар дэ-Монзье ў размове з супрацоўнікам „Kurjera Polskiege“ аб выніках яго падарожы ў Маскву заявіў, што яго тэорытычныя пераконаньні пасьля паездкі ў Радавыя Рэспублікі яшчэ больш умацаваліся. Па думцы Монзье французы павінны мець у Маскве ўрадовае гандлёвае прадстаўніцтва. Пасьля можна будзе распачаць палітычныя перагаворы.

Супрацоўніку „Journal de Pologne“ дэ-Монзье заявіў: „Варочаюся з Масквы, бачыў там усё, што хацеў бачыць і ўсё што бачыў, бачыў без перашкодаў. Адзначу тое, што скажуць усе чужаземцы быўшыя ў Радавых Рэспубліках, г. ё., што жыцьцё хутка йдзе ўперад у высілках бязумоўна нябывалых, але ідучых да нармальнага становішча“.

# З газэт.

### „Яснавяльможныя“ спэкулянты.

„Robotnik“ з глыбокім абурэньнем апісывае вынікі раздачы ўрадам вялізарных грошы паном-абшарнікам пад відам задаткаў на хлеб з новага ўраджаю. Рада міністраў асыгнавала на гэта 120 мільярдаў марак, з якіх гэтымі днямі выплацілі паном 9 мільярдаў. І хоць паны выпрашывалі грошы, тлумачачы, што ў іх няма абаротнага капіталу на збор ураджаю, аднак, дастаўшы гэтыя мільярды, не ўлажылі іх у гаспадарку, а... пусьцілі на спэкуляцыю!

> Мільярды гэтыя ўраз-жа апыніліся на біржы, бо панскія арганізацыі, якія дасталі ад ураду грошы на куплю збожжа, пастанавілі „psim swędem“ падвоіць адтрыманыя сумы біржавой ігрой.
>
> У працягу аднае гадзіны, калі аказалася, што вялікшая частка банкаў дастала загад ад сваіх кліентаў закупляць для іх акцыі, на біржы цана блізу ўсіх акцыяў, што была перш панізілася, вярнулася ізноў да тае вышыні, як перад паніжэньнем.

Як прыклад газэта падае ўзрост цаны жырардоўскіх акцыяй з 42 мільёнаў да 62 мільёнаў марак за штуку. Падобна-ж падскочылі і цэны другіх акцыяў.

Вынік гэтага — далейшае абясцэненьне польскае маркі.

> Тое, што дзеялася ўчора (27. VIII) на варшаўскай біржы чаго трэба спадзявацца і далей ў меру кіданьня ўрадам новых міліярдаў у прагавітыя на нажыву лапы абшарнікаў, павінна расчыніць вочы здурнеўшым прыхільнікам „васьмёркі“ на гаспадароў выбранага імі ўраду.
>
> Зьняць маску з гэнае нягодняе работы павінен памагчы, калі не камісар біржы, што мае пільнаваць інтарэсы скарбу, дык пракурор.
>
> Пусканьне міліярдаў на спэкуляцыю акцыямі дае найлепшы доказ, што *абшарнікам не патрэбна падмога ўраду.*

І мы думаем гэтак сама. Падмога патрэбна працоўнікам, што ледзь-ледзь дыхаюць на зруйнаваных войнамі гаспадарках, — але для іх, асабліва на беларускіх землях, урад ня мае грошы. А для „яснавяльможных“ грошы заўсёды знойдуцца....

### Бьюць трывогу.

Пасол Мар'ян Маліноўскі ў „Robotniku“ ў артыкуле „Што робіцца на крэсах усходніх“ бье трывогу з прычыны адносін польскай адміністрацыі да мясцовай людпасьці:

> „... адміністрацыйныя ўлады на крэсах, пакідаючы адкрытай усходнюю граніцу Рэспублікі, так трактуюць мясцовае насяленьне, быццам ім ідзе аб тое, каб выклікаць сярод яго ненавісьць да Польшчы і стварыць так пажаданых для Хьены ўнутраных ворагаў.
>
> Вынікі гэтай забойчай Польшчы для палітыкі ўжо гэткія, што ў паветах: Косаўскім, Лунінецкім, Пінскім, Яноўскім, Столінскім і Драгічынскім утварыліся банды, якія налічваюць ад 40 да 200 добра ўзброеных людзей. Гэныя банды на тэрор адміністрацыйных уладаў адказываюць тэрорам. У апошніх днях здарыўся не адзін, толькі выпадак забойства паліцэйскіх і войтаў, як аб гэтым паведамлялі газэты з Косаўскага пав., але забойствы былі ўва ўсіх памянёных паветах. *Нападаючыя выступаюць ў ролі абаронцаў мясцовага насяленьня.* Гэтую ролю бандам шмат аблягчылі польскія ўлады сваімі паступкамі і рэпрэсыямі, якія нячувана павялічыліся пасьля пераходу ўлады ў рукі Хьена-Пяста.
>
> Сытуацыя на крэсах становіцца грознай, Настаў час, каб польскае грамадзянства больш зацікавілася, як справай граніцаў, так і адміністрацыяй на крэсах, бо тое палажэньне рэчаў, якое там цяпер пануе, можа давясьці да неаблічальных пасьледстваў“.

Галасы нашых паслоў у Сойме аб зьдзеках адміністрацыі на крэсах, аб „дыме пажараў і кураве крыві“ засталіся „голасам крычачага ў пустыні“. Беларускае прэса, калі піша аб тымжа канфіскоўваецца і зачыняецца. Ці зьвернуць увагу на гэтую перасьцярогу польскага пасла—так сама трудна спадзявацца.

# З Польскага Сойму.

### Пачатак соймовай працы.

Зімняя сэсыя сойму распачнецца ў пачатку кастрычніка і працягнецца да сакавіка. Сойм галоўным чынам будзе працаваць над бюджэтам на 1924 год, вайсковымі справамі і ўставай аб самаўрадах.

---

# Перасьцярога.

Да ўсіх, усіх, хто ня бача вывернутых пагранічных слупоў, узараных межаў, вастрогаў у руінах. Гляньце, то-ж з пад усходу і заходу хваля за хваляй коціцца мора народу. Непаўстрыманая, нязнаная, нябывалая, ахвочая хваля ўсясьветнага народу. Бачыце, там нераздзельна ўсе расы, нацыі, рэлігіі, станы, мужчыны і жанчыны ідуць згоднай талакой. Хіба ня бачыце, як прамянее над імі яснасьць, як іх усё чула-радасна вітае, а на сьцягах красуюцца плугі, малаты і ліры, а сьлед іх сьпелыя, сакавітыя плады. Прыгледзьцеся, як трыумфуе мінулае.

Да ўсіх, усіх, хто ня чуе шуму-гуду, гымнаў, поклічаў усялякіх усіх моваў. Усе гукі гэтага стройнага аркестру зьліваюцца ў захопліваючыя словы: „Мы хочам жыць, каб працаваць, а не працаваць, каб жыць! Мы ідзем жаць нівы будучыны! Мы можам, што хочам! Мы зможам!“ Вось як прамаўляе уся-

сьветная, кваціствя грамада. Слухайце-ж, слухайце якім каваным звонкім ўдарам б'ецца здаровае сэрца гэтай грамады, якім цьвердым, дружным поступам ідзе наперад, якім громам, юрам зычыць яе голас. Разчыніце-ж насьцеж свае душы, хай гэтая чароўная, мо недасягнутая, невыяўная, але жыцьцёдаўчая музыка разьвеець пыл адсталасьці, нехайнасьці, хай узрыгануцца грудзі ад творчых парыванняў і адзавуцца рэхам, спачуцьцём...

Ах, няўжо-ж вы ня бачыце, ня чуеце?!

Напружце ўзгляд, настаўце вушы вы, усе глухія і сьляпыя. Збаўляйцеся! Хутчэй! Змарнаваны міг, праступнае „не" і вас ня стане, вы—нябыцьцё. Пагінеце, неўваскрэснеце.

Дык бярэце-ж ў свае недарадныя ці злачынныя рукі агонь маей праўды, распаліце ў полымя л ю б о ў, каб маглі згледзіць ч а л а в е к а, каб маглі пачуць п р ы х о д н о в а г а і м а л а д о г а.

Збаўляйцеся! Хутчэй!

**Р. Юргілевіч.**

# З УСЯЕ БЕЛАРУСІ.

## ЗАХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## ХРОНІКА.

Дэпутатам Сойму Сымонам Рак-Міхайлоўскім былі ўстроены беларускія мітынгі ў в. Міхневічы Ашмянскага павету 12. VIII, у м. Хаценчыцу Вялейскага павету 28. VIII і ў м. Радашкавічы Вялейскага-ж павету 30. VIII. Народ з зацікаўленьнем слухаў прамовы свайго дэпутата. У часе мітынгу ў Хаценчыцах было сабрана ахвяраў на падтрыманьне беларускае газэты ў Вільні 92.000 мар. польскіх.

**Мітынгуюць.** Эндэк апалячаны немец Обст і пан Пілсудскі адзін перад другім стараюцца захапіць пад свае ўплывы кучку віленскіх дэвотак і пагромшчыкаў-шовіністаў, а дзеля таго бадай кожную нядзелю ладзяць мітынгі. Адзін хваліць сучасны ўрад абшарнікаў і фабрыкантаў, прызывае біць меншасьці, а другі хаець эндэкаў і праслаўляе сваю асобу і абодва крычаць; „Niech żyje Polska!" і абодвым тая самая кучка недалюдкаў ці засьлепленых людзей складае энтузьястычныя прывітаньні. Абодва авантурнікі дурманяць людзей, іграюць на цёмных інстынктах масы. Паміж імі няма ніякай розьніцы, у таго і другога тая самая панская Польшча, якой яны на мітынгах жадаюць жыцьця. А вось хай работнік і працаўны селянін скажа своё слова, дык гэтыя непрымірымыя цяпер паны адразу пагодзяцца і зробяць адналіты фронт проціў працоўных. Чамусьце гэтыя паны месцам сваей авантуры абралі беларускія абшары, але беларускі працоўны народ ужо добра навучаны і за гэтымі панамі ня пойдзе.

23 жніўня г.г. ў Шаркаўшчыне Дзісненскага пав. пасол Мятла наладзіў справаздаўчы мітынг. Ня гледзячы на дрэнную пагоду народу сабралася шмат, справаздача пасла была выслухана з вялікай зацікаўленасьцю. Сабрана на прэсовы фонд 51.000 марак.

Грамадзяне в. Гарадзілава, Пахачанскай гміны нас паведамляюць, што 22 верасьня (па старому стылю 9 верасьня) у іх вёсцы адбудзецца вялікі фэст, на які запрашаюць беларускіх паслоў, каб зрабілі справаздачу з свое соймавае працы.

Вядомая поэтэса Н. Арсэньнева пералажыла на беларускую мову 2 часьць „Dziadów" А. Міцкевіча.

## Весткі з вёскі.

**Алекшыцы**, Городзенскага пав.

19-га жніўня ў нас адбыўся першы беларускі мітынг. З прычыну фэсту народу сабралася вельмі многа. З вялікай зацікаўленасьцю выслухаў народ справаздачу пасла Валошына аб працы беларускіх паслоў у Сойме, з якой вынікае, што толькі тады праца іх дасьць дадатныя рэзультаты, калі сам народ будзе ім памагаць сваей організаванасьцю і нацыянальным усьвядамленьнем. Дужа пажадана, каб такія здарэньні ў нашым гаротным жыцьці былі як найчасьцей. Прыезд беларускага пасла для нас вялікае сьвята. Лягчэй тады зносіш крыўду і зьдзекі над сваім родным і мацней верыш, што рана ці позна, але наша возьмець, і праўда запануе.

**Вясковец.**

**м. Заблудава**, Беластоцкага пав.

28 жніўня ў нашым мястэчку адбыўся першы беларускі мітынг. Пасол П. Валошын даваў справаздачу аб працы беларускіх паслоў у Сойме. Народу, каб паслухаць свайго пасла, сабралася вельмі многа. У сваей прамове пасол Валошын закрануў, пытаньня асьветы і грамадзянскія справы. Прызываў народ аб'еднацца і дружною сьцяною ісьці да працы на роднай беларускай ніве, бо калі сам ня будзеш дбаць, то і ніхто табе не дасьць. Пасьля мітынгу быў выбраны сэкрэтарыят Беларускага Пасольскага Клюбу. Спадзяёмся, што і другія беларускія паслы заглянуць да нас і скінуць з нашых вачэй павязку страху перад панамі, паліцыянтамі і іншым „начальствам".

**Заблудавец.**

**Вёска Лысіцы-Копцеўшчына**, Нясьв. павету.

У нашай вёсцы стаіць 3 эскадрон 26 палка. Жаўнеры самавольна капаюць у начы бульбу на сялянском полі, забіраюць авёс з поля ў начох, а ў начы з 29 на 30 жніўня г. г. у каня гаспадара Петра Мацавилы адрэзалі хвост. Гаспадар пасьвіў каня на канюшыні, жаўнеры ў лічбе 6 чалавек напалі на яго і адрэзалі каню хвост па самую макаўку. Перад гэтым далі па ім некалькі стрэлаў, забралі аброць ад каня. Івам Жэрка, сусед, які падбег на дапамогу Мацавілу, апазнаў двух жаўнераў Зголу і Каменьчука.

Вёска стогне пад цяжарам пастою гэтых жаўнераў і ня можа дачакацца часу, калі яны выедуць з вёскі. На ўсе жальбы сялян начальства вайскавае не зьвяржае ўвагі Добрым падцьвярджэньнем таго, як вядуць сябе гэныя жаўнеры ў вёсцы, паказываець тое, што летась засудаілі 2 жаўнераў, якія пакралі сала ў селяніна Курыны; летась-жа адбыўся суд над жаўнерамі гэтага-ж эскадрону за нанесеныя імі цяжкія пабоі селяніну Юльяну Дземідовічу, які бараніў ад яго свае дровы.

Жаўнеры гэтыя жывуць ужо ў вёсцы з 1920 году, размешчаны яны ў сялянскіх хатах, коні стаяць у сялянскіх хлявох; усіх сьцісняюць яны. Коней сваіх жаўнеры пасуць на сялянскіх выпасах, аб'ядаюць вёску.

Паблізасьці ёсьць маёнтак Астраўкі Булгака, Краснагоркі Браноўскага. Чаму-ж урэшці, не паставяць гэны эскадрон туды? Апрача таго ёсьць маёнтак Галаўцы Абуховіча. Усё кладзецца на сялянскі карак не дарма-ж мы жывём пад хьена-пястаўскім панаваньнем—доўга так бадай ня вытрываеш.

**Б— чок.**

# Дописы.

## Беларусы у Амэрыцы.

(Ад нашага карэспандэнта).

### Аб прыездзе новага дзеяча.

Беларускі Камітэт у Чыкаго на сваім апошнім паседжаньні абгаварываў справу аб прыездзе новага дзеяча з Бацькаўшчыны. З усіх гутарак выясьнілася патрэбнасьць павялічыць рады амэрыканскіх беларускіх дзеячоў новымі сіламі з Беларусі.

Застанавіліся на кандыдатуры грам. Я. Варонка, вядомага старога беларускага працаўніка і выдатнага літэратара, які асабліва у даны мамэнт патрэбны дзеля выдаваньня беларускай газэты ў Амэрыцы. На падарожу грам. Варонкі Камітэт асыгнаваў з сваіх сум. Рэшта патрэбных дзеячоў будзе выпісана, як толькі будзе вымагаць актыўнасьць справы. Камітэт робіць энэргічныя стараньні, каб у Злучаных Штатах Амэрыкі стварыць паважны эканамічна-палітычны беларускі цэнтр.

### „Наш Сьцяг" і амэрыканскія беларусы.

Газэта „Наш Сьцяг" сярод амэрыканскіх беларусаў цешыцца вялікай папулярнасьцю. На ўсіх сходах газэту бяруць нарасхват. Пасьля помачы палітычным у першую чаргу будзе аказана помач газэце, каб яе павялічыць да штодзеннага выданьня. З усіх прадпрыемстваў будзе адлічвацца пэўны працэнт на падтрыманьне „Нашага Сьцягу".

# БІБЛІЯГРАФІЯ.

*Сымон Рак-Міхайлоўскі. Арытмэтычны задачнік для пачаткавых школ. II частка, Выдавецтва Б. А. Клецкіна. Беларускі аддзел. Вільня 1923 г.*

Задачнік аздоблены прыгожай вокладкай з малюнкам; друку 64 старонкі. Выдадзена кніжка акуратна, старанна, як і ўсе наогул кнігі, выпушчаныя ў сьвет Беларускім аддзелам выдавецтва Клецкіна.

Пры дэталічным азнаямленьні са зьместам гэтага новага падручніка для беларускіх пачатковых школ адразу можна заўважыць, што задачнік зложаны практычным пэдагогам, згодна вымогам мэтодычным, дыдактычным і пэдагогічным. Задачкі для дзяцей другога года навукі падаюцца ў ступнёвым парадку іх труднасьці, тэмаю іх зьяўляюцца прадметы і зьявішчы, абкружаючыя вучня, дзіця работніка вёскі і места.

У расейскіх задачніках ды і цяпер у польскіх задачніках для пачаткавых школ мы бачым, што аўтары іх, карыстаючыся тым, што пры падбіраньні задачаў гандаль даець найшырэйшы матэрыял, зазвычай падаюць найбольш задачак у розных відах гандлю—з нажывай, стратай, па сабе вартасьці, а то і цэлыя аддзелы задачак на мешаніну сыпкіх цел або плыўкіх ў інтарэсах большага зыску, заснаванага часта на абмылках пакупца і г. д. Праглядаючы гэткія задачнікі-падручнікі, атрымаўваецца ўражаньне, што школа нібы толькі тое і павінна рабіць, што гадаваць дзяцей, прывучаючы іх да гандлю, да нажывы, да ня так ужо цяжкага віду заработку. Усе гэтыя прыросты на капітал, нажыва пры куплі-прадажы далёка ня могуць лічыцца ў тэмах задачак узгадоўваючым матэрыялам для маладой і чулай душы вучня пачаткавай школы. Гэтага віду хібу не дапусьціў аўтар у разгляданым падручніку, а роўна абмінуў і сьмешныя ў цяперашнія часы нават для дзіцяці цэны на розныя прадметы, скажам, на хлеб, як гэта спатыкаем мы ў польскіх іншых задачніках—хунт хлеба 3—7 марак, альбо ў росейскіх ды і ў беларускіх задачніках (пераклад зад. Юрэвіча) 2 кап за хунт.

Разгляданы задачнік можна назваць задачнікам працы і толькі працы, і з гэтае прычыны ён можа заслўгоўваць як на найбольшае пашырэньне ў пачаткавых школах.

Усе гэтаыя аддзелы апрача агульных для кожнага задачніка, а роўна і такія, як „дзяленьне з рэштай", „дробы", „шыбкае рахаваньне ў памяці", азнаймленьне з рымскікі цыфрамі — рэч звычайная ў сучасных задачніках, не абмінёны і ў разгляданым падручніку. Шкада толькі, што аўтар зьвярнуў слабую ўвагу на практыкаваньні з мэтрычнымі мерамі. Магчыма, што паколькі разгляданы задачнік мае абслугоўваць толькі II аддзел пачаткавае школы, дык можна лічыць, што аўтар заставіў гэты матэрыял для задачніка наступнага году навукі вучня, але мы лічым, што нельга было абходзіць яго і ў II годзе навукі.

**П. К.**

# Усячына.

### Сьпяшыліся.

У Варшаве 1-га верасьня пушчаны ў абег новыя 250.000 банкноты. Урад так сьпяшыў з іх надрукаваньнем, што нават не зрабіў добрае карэкты і заместа 1923 году надрукавана 1823 год. Цікава, ці маюць з гэтай прычыны новыя банкноты якую-небудзь вартасьць ці не?

### „Буржуазны рай" і „савецкае пекла".

Пасол Маліноўскі апісываючы дрэнную арганізацыю польскай пагранічнай паліцыі, паміж іншым піша: „Паліцыянты галодныя, абдзёртыя, пэнсыю адтрымоўваюць з вялікім апазьненьнем. Спатыкаюцца паліцэйскія ў мундзірах, але ў цывільных капялюшох, альбо ў шапках паліцэйскіх, але бяз мундзіраў, бо абмундзіраваньня не адтрымоўваюць. Наадварот расейскае войска, якое стаіць на граніцы вельмі добра абмундзіравана. Густа устаўленыя будкі даюць ім схованъ ў часе непагоды, а праз балоты зроблены сьцежкі і кладкі. *Часта здараецца, што змучаны польскі паліцыянт хаваецца на адпадчынок да большавіцкай будкі* (sic!). Галодныя, дрэнна аплачваемыя паліцыянты чакаюць толькі аказіі, каб хто іх чым запамог, дзеля гэтага не адмаўляюцца і ад узяткаў і мала цікавяцца тым, што робіцца блізка граніцы".

### Ахвяры на прэсовы фонд.

Ад гр. К. Езавітава праз С. Рака-Міхайлоўскага—30.000 м.

## Курс на грошы.

**Варшава 3 Верасьня.**

(Офіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . . | 249.000 |
| Нямецкая марка . . . . . | 0,02,25 |
| Фунты штэрл. . . . . . . | 1.134.000 |
| Франкі франц. . . . . . . | 14.175 |
| Франкі бэльгійск. . . . . . | — |
| 10 руб. золатам . . . . . | — |
| Польскі злоты . . . . . . | — |

***Пішыце да нас аб жыцьці—быцьці вёскі аб сваіх ворагах і прыяцелях. Хай кожны падпішчык „Вольнага Сьцягу" будзе і яго супрацоўнікам.***

Рэдактар-Выдавец Я. Лагіновіч.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.